ГОД ВЫДАН. III. Przesyłka poctzowa opłacona ryczałtem ЦАНА 30 ГРОШ.

# Маланка

ЧАСОПІСЬ ГУМАРУ, ЖАРТАЎ І САТЫРЫ

20. V. 1928 „МАЛАНКА" СМАЛІЦЬ ШТО ДВА ТЫДНІ! № 6

## Маёвы трыумф „Пэпээсаў"

У дзень „Першага Мая" ўчасе работніцкага паходу ў Варшаве было забіта 5 работнікаў і 280 раненых.

У бойцы чынны ўдзел прыймалі баёўкі „П. П. С-аў"

(*З газэт.*)



**Правадыр „Пэпээсаў":** Так, дзень „Першага Мая" ёсьць праўдзіва-работніцкім сьвятам, і мы сёньня фактычна сьвяткуем свой трыумф!



# ВЯСНА.

Ой, вясна, ой, вясна! —
За душу ты мілей,
З табой доля ясна,
З табой жыць весялей!

Як зьявілася ты,
Лес іначай шуміць;
Узлажыўшы лісты,
Як пан, горда глядзіць.

Ты зялёнай травой
Скрыла чорну зямлю,
І прызвала сабой
Усіх к працы, к жыцьцю.

Гоман птушак-пяюх
Льецца ў вушы твае,
На жалейцы пастух
Галасіста пяе.

Чуць заняўся усход
Неба яснай карой,
Прэць на поле народ
З бараной і сахой;

Працавітай рукой
Засявае шнурок; —
Ой радзі, мілы мой,
На пацеху, хлябок!

... А вось далей глядзі, —
Там дзяўчаты стаяць,
І з дзявочай грудзі
Гучна песьні ляцяць.

Адным словам, кругом
Вясна, — права твае!
З цябе долю бярэм,
Пацяшаем жыцьцё.

. . . . . . . . . . . . . .

Засьвяці-ж ты, вясна,
Сваім блескам для нас,
Калі сэрца, душа
Сьпяць у чорненькі час!

Засьвяці, калі мы
Аблёмся сьлязьмі,
Разбудзі нашы сны,
Душу, сэрца вазьмі!

**Янка Купала.**






✕ Кажуць, што нядаўна на Лідзкім шляху паліцыя знайшла труп незнаёмага чалавека—сама-губцы. Каля яго ляжала газэта „Народ“ і запіска наступнага зьместу: „У сьмерці маёй віню „Спадара“. Адтрымаўшы ад яго газэціну „Народ“ пачаў чытаць, але ня скончыў, бо знудзіла мяне. Калі беларусы дажыліся да такой газэты, дык далей жыць ня варта!“

✕ Кажуць, што рэдактар „Беларускага Дня“ Умястоўскі зусім закінуў свае пэрсідзкія ўспаміны, заняўшыся пропагандаю окультных навук: ужо пачаў пісаць у сваёй газэце аб гіпнотызьме, далей мае йсьці: сьпірытызм, магнэтызм, сомнамбулізм, а ў канцы і тэорыя палітычнае гарачкі пад хімічнаю формулай В. В. W. z R.

✕ Кажуць, што вядомы графоастролёг, аўтор „Chiromancji“ Аваднеўскі, які кожнаму скажа, што з ім было і што будзе, вылічыў гэтак палітычны лёс беларускае хадэцыі: У ранейшым Сойме хадэцыя наша мела аднаго ксяндза, у цяперашнім Сойме мае двух арганістых, у далейшым Сойме будзе мець пяць закрыстыянаў, а далей, дык ужо паўстане ў Польшчы *круль*, а Сойм будзе шляхоцкі, дык і скончыцца тады паславаньне хадэцыі наагул.

✕ Кажуць, што ў часе суда над сэн. Рагулям у Вільні, у кулуарах Суда гаварылі: „за што-ж яго судзіць? — гэта-ж свой чалавек! Пішучы свае інсынуацыі проціў Луцкевіча, ён так прыслужыўся абвінавачаньню ў справе „Грамады“, што цяпер п. пракурор карыстаецца Рагулем, як сьляпы кіем“...

✕ Кажуць, што вядомы хірамант Аваднеўскі, калі ў яго спыталіся, калі выйдзе наступны нумар „Поклічу“, сказаў: „вясной у 1932 годзе ў часе выбараў у Сойм і Сэнат“.

✕ Кажуць, што Каралеўскі солтыс В. Дур—ка выдумаў новую матэматычную тэорыю. Увесь сакрэт палягае ў тым, што за падаткі ад сялян ён адтрымлівае большую суму, а здае ў гміну меншую, рэшта застаецца ў яго кішані, як ганарар за яго выдумку.

У падзяку за яго „патрыятычную дзейнасьць“ начальства назначыла яго яшчэ на год солтысам і нават бяз выбараў.

✕ **Навасёлкі, пав. Віленск.** Кажуць, што наш солтыс А. М., як надзене мядалю і выйдзе на вуліцу „службова“, дык цудоўна перарабляецца на пана. Бог тагды адбірае ад яго родную мову, а дае яму панскую. На гэтай мове солтыс кажа так: „*Кшупы, сtaжоста, кшова, джовы*“ і т. п.

✕ **В. Ельня.** Прыляцеўшыя к нам буслы абдарылі сёлетняй вясной аж трох дзяўчат з нашай вёскі. Шчасьлівыя дзяўчаты адтрымалі ад буслоў, як падарунак... дзьве дачушкі і аднаго сынка...

Падарункі гэтыя паходзяць з вядомых „заходня-эўропэйскіх“ майстроўняў тутэйшых пагранічных салдатаў.

✕ Кажуць, што вядомы ў Слоніме кандыдат на сэнатара (па сьпіску № „18“) пан Б—ч, залажыў у лёмбардзе фрак, візытку, цыліндар, белыя рукавічкі і т. п.

Рэчы гэтыя ён справіў у надзеі, што пападзе ў Сэнат на месца сэн. Рагулі.

Аж, раптам...

## Добрае срэдства.

Перш, як дзеці плачуць і ня ўнімаюцца, маткі іх страшылі так:

— Ціха, а то жыду аддам!

А цяпер:

— Цыц, а то цябе „Спадар“ зьесьць! *У. З.*

### У СУДЗЕ.

**Абвінавачаны** (*да адвакаты*): Я ўжо трэці раз пападаюся ў крадзежы. Цяпер мне пагражае вялікая кара... Што рабіць?

— Гм... Папробуйце запісацца ў „Сялянскі Саюз“, бо цяпер толькі адных сельсаюзьнікаў звальняюць.

*Свой.*

### АБІДЗЕЎСЯ.

— Я, здаецца, вас бачыў, як вы гулялі ў лёто ў „Беларускай Хатцы“?

— Што вы... За каго вы мяне маеце? — Я—пачцівы чалавек!

*Б. К.*

## З галерэі сучасных беларускіх паслоў.

*Рыс. Я. Горыд.*



**Пасол Яз. Гаўрылік** (*з клюбу „Змаганьне“*) прамаўляе ў Вільні ў дзень „Першага Мая“.

### НАШЫ ЖОНКІ.

— Слухайце, паненка,— пытае поп у часе споведзі перад шлюбам маладую, — скажэце мне перад Госпадам Богам, ці не даканаў ваш жаніх чаго недазволенага?

— Не, бацюшка, не... я—яму ўсё дазваляла!

**„Зиз“.**

### ПАДСЛУХАНАЕ.

— Якая ваша прафэсія?

— Студэнт.

— А якую школу вы скончылі?

— Скончыў... школу скокаў.

— А цяпер чым займаецеся?

— Даю лекцыі сучасных скокаў: чарльстон, блэк-ботум і „лявоніха пастудэнску“.

*Дыр.*

### НА ПРАЦЭСЕ „ГРАМАДЫ“.

— Вы— сьведка са стараны абвінавачаньня?

— Але.

— А каго вы з абвінавачаных знаеце?

— Я нікога, але мой камэндант усіх знае, а я ў яго конфідэнтам.

*Б. Д.*

*Пашырайце круг нашых платных падпішчыкаў!*

# Бедныя Лукішкі ніколі ня пустуюць...



„Perpetum-Mobile“
(Вечны рух)

*Рыс. Яз. Горыд.*

На „Лукішках“ пануе вечны рух: „пасынкаў“—упускаюць, а „маміных сынкоў“—выпускаюць.

**Ярэміч**: Ну, і вязець-жа нам, сельсаюзьнікам! Пасядзелі мы, як на сьмех, пару тыдняў, а цяпер... ужывай волі, колькі ўлезе! Добра быць лідэрам, што!? Гэ... гэ... гэ!..

**Рагуля**: Вядома! То-ж і людзі кажуць, што пакорнае цялятка дзьве маткі сьсе. Умеем мы людзям туман у вочы пускаць! Хэ-хі-ха!..

**Ярэміч**: Але-ж цябе, братка, здаецца ў ланцугох вадзілі? Гэта-ж — зьдзек!..

**Рагуля**: Пляваць, які там зьдзек! Ды я гатоў тыя ланцугі цалаваць з радасьці, то-ж ня жартачкі, гэткая рэкляма маёй асобе!!

## Што я бачыў у Вільні.

(*Маленькі фэльетон*).

Я яшчэ ніколі ня быў у Вільні. Жывучы за трыста вёрст ад яе, мне здавалася:

Што Вільня гэта — нешта над'звычайнае!

Вільня — беларуская Мэкка, як казаў наш пясьняр.

У Вільні столькі беларускіх інстытуцыяў!

Рэдакцыяў!

Беларускі Банк!

Гімназія!

І ў Вільні судзяць Беларускую „Грамаду“!

Я толькі і марыў аб Вільні. Устаючы, я думаў аб ёй. І сплючы, заўсёды сьніў яе.

Вільня!

Вільня!

Аж нарэшце! Адтрымліваю ліст ад дзядзькі. Піша: „Пасылаю табе грошы на дарогу. Прыяжджай да Вільні. Падвучышся тут пры мне, дык пасьля добрым музыкантам будзеш.

Еду радасны. Усю дарогу ня церпіцца мне:

— Ах, каб хутчэй Вільня!

Нарэшце, мінуў Новую-Вілейку. Кажуць, што толькі сем кілямэтраў да Вільні засталося. Выйшаў у калідорчык, адчыніў дзьверы, углядаюся. Едзем праз нейкія горы. А там... праз сіні дым відаць вярхушкі цэркваў і касьцёлаў.

Гэта Вільня!!

... „І ня спынілася машына,
„А ўжо пайшла мітусяніна“...

прыпомніў я, пад'яжджаючы да самае Вільні.

Уваходжу на станцыю. Хачу купіць беларускую газэту. Разглядаюся.

Няма ніводнай! Толькі „Беларускі Дзень“ і „Грамадзянін“ паміж польскімі газэтамі валяюцца. Прэч, брыда! — падумаў.

Вільня толькі будзілася зо сну. Беглі да працы работнікі. Сьпяшаліся заспаныя вучні і вучаніцы.

Пайшоў я аглядаць Вільню. Бачу:

Беларуская гімназія.

Беларуская кнігарня—адна, другая.

Рэдакцыя „Маланка“.

Беларускі Банк.

Скрывіўся я ад першага ўражаньня. Вывескі гэтых інстытуцыяў нейкія шэрыя, нявыразныя,— у трох шагох трудна без акуляраў прачытаць.

— Чаму гэта, — падумаў я сабе, — людзі стыдаюцца самі сябе? Чаму ня хочуць рэпрэзэнтаваць на ўсю Вільню свае беларускасьці?

Гэта-ж прыемна было-б кожнаму прыезнаму бачыць, што беларускасьць Вільні здалёк кідаецца кожнаму ў вочы. А віленскім паном мо' і няпрыемна рэзала-б у вочы, але няхай! Гэта-ж у народзе навет прыказка ёсьць: „Што для пана хвароба, то мужыку — здароўе“.

Пайшоў я далей хадзіць па Вільні. Бачыў яшчэ адну Беларускую Кнігарню, Беларускую Друкарню і каля дзесятка іншых інстытуцыяў.

# Тыпы з працэсу Беларускай „Грамады“.



## Тыя, якія судзяць „Грамаду“.

**Першыя два — пракуроры; далей: 1) судзьдзя п. Ёдзевіч, 2) прээзс суда п. Аўсянка, 3) судзьдзя п. Барэйка.**

(„Słowo“ № 80).



**Падпракурор**
**п. РАУЗЭ,**
які абвінавачвае падсудных.
(«Słowo» № 96).

### ЖЫВЫЯ ІДЭІ...

— Вось разгадай, калі ты такі разумнік, нашто гэта беларускія эсэры носяць даўгія валасы?

— Гм... гм... ня ведаю.

— Натое, — каб маглі дзе пладзіцца жывыя ідэі.

*Я. Л.*

### НА ЛУКІШКАХ.

Вастрожны сторож да арыштанта ў часе галадоўкі:

— Гэй, ты там!.. Жывеш яшчэ?

— Жыву, вось бачыш...

— Дык што-ж ты жывеш гэтак доўга?! Памірай, брат, хутчэй, — і для другіх месца патрэбна!..

*Ст.*

### У ФЭЛЬЧАРА.

— Вось, цётка, будзеш даваць гэта лякарства свайму старому па дзесяць лыжак у дзень.

— А, Божа-ж мой! дзе-ж я вазьму столькі лыжак? У мяне толькі чатыры ёсьць.

### ДОБРА АДКАЗАЎ.

Будаўляны інжынер спытаўся неяк у работніка:

— Колькі ты зарабляеш?

— А больш за пана!

— Дурань, што пляцеш? Я зарабляю больш сотні ў дзень, а ты?!

— Я хоць і мала зарабляю, але неяк здавольваюся, а пан шмат зарабляе, дый усё мала — яшчэ ад нас крадзе...

*Яз. Б.*

---

Усе яны, на адзін капыл, нейкія прыгнечаныя, прыдушаныя, як і сам беларускі народ. Няма сьмеласьці, бадзёрасьці, ці, як раней казаў, вонкавай рэпрээзэнтацыйнасьці.

Засумаваў я і пайшоў да дзядзькі.

Дзядзька мой стары-беларус, вядомы навет у беларускім руху. За сьнеданьнем скардзіцца мне:

— Неяк сапсаваўся народ. Раней беларус за беларуса, як жыды, гарой адзін за аднаго стаялі. А цяпер — сваркі, шопкі, лаянкі і бязглуздыя лісты ў газэтах.

У Вільні беларусаў некалькі тысячаў. А як прыгледзішся, па пальцах, здаецца, пералічыў-бы іх.

Няма такой агульнай беларускай рэпрээзэнтацыі, дзе сходзіліся-б беларусы, як адна сям'я, дзе-б чуліся, як у сваёй хаце.

Адзін баіцца перад уладамі сваю беларускасьць дэманстраваць. Другі баіцца за сваю мізэрную пэнсію, якую адтрымлівае ад таго ці іншага партыйнага хлебадаўцы. Трэці пасьпеў амаль з усімі таварышамі і знаёмымі пералаяцца і цяпер стыдаецца людзям на вочы паказвацца. Чацьвёрты баіцца з сваім партыйным праціўнікам спаткацца, каб... часам па нюхаўцы не дастаць.

І гэтак далей і далей.

Бывала перад вайной, як ладзілі беларусы спэктакль, або вечарыну, дык людзі валам ішлі з усей Вільні.

А цяпер?

Ёсьць у Вільні дзьве гэтак званыя культурныя ўстановы, якія рывалізуюць паміж сабой. Калі адна ставіць „Мікітаў лапаць“, другая — „Чорт і баба“, як тая — „Зьбянтэжаны Саўка“, іншая — „Пасланец“ і гэт. падобн. П'есы гэтыя даўно ад'жылі свой век, нават да вясковага, або дзіцячага тэатру не надаюцца.

А паглядзець на пастаноўку! Прымітывізм, — абы з рук.

Вільня — сталіца Беларусі павінна даўно ўжо дачакацца лепшага беларускага тэатру!

Кажуць, Вільня мае добры беларускі хор. Праўда!

Але дзе ён? Яго амаль ніхто ня чуў. Пяяць на вучнёўскіх вечарынах і суботніках, гэта — невялікае заданьне хору.

Прыяжджалі да Вільні з сваім хорам паляці, латышы, жыды, украінцы, а беларусы на месцы сьпяць у шапку.

І шмат чаго расказваў мне дзядзька аб Вільні.

Не хацеў я навет слухаць яго. Уся гэта сухая рэчаіснасьць разьбівала мае прыгожыя мары — лятуценьні аб Вільні.

У той самы вечар я пакінуў Вільню, не схацеў навет за музыканта вучыцца.

Лепш на вёсцы, — прывальней, і людзі там жывуць дружней. Паветра чыстае і думкі чыстыя.

Нашто мне душыцца ў гнілым віленскім балоце?!

Дык вось, дарагая „Маланачка“, мае ўражаньні з Вільні...

Можа надрукуеце?

**Янка Барысаўскі.**

# Вось табе і абяцанкі — цацанкі!




**Работнік** (*да жонкі*): Бач, якія цэны на прадукты! Аж валасы дуба ўстаюць. Ну і хітрыя буржуі-абдзіралы, знарок павыстаўлялі цэны ў вакне, каб наш брат-работнік зусім да крамы не заходзіў і там ім не сьмярдзеў.

Вось табе і палягчэла пасьля выбараў!

**Міх. Зошчэнко.**

## МУЖ.

Ды што-ж гэта, грамадзяне, за навіна такая ў сямейным жыцьці? Мужом, як бачу, хутка капут зусім прыдзе. А асабліва тым, у якіх, бачыце, жонка палітыкай і сучаснымі пытаньнямі займаецца.

Надовечы, бачыце, якое дзіўнае здарэньне сталася. Прыходжу дамоў. Уходжу да хаты. Стукаю, стукаю, напрыклад, у свае ўласныя дзьверы — не адчыняе.

— Маруся, — кажу сваёй уласжонцы, — ды гэта-ж я, Васіль, прышоў.

Маўчыць. Прытаілася.

Раптам за дзьвярыма голас Міхася Бачковага чуецца. А Міхась Бачкоў — супрацоўнік, бачыце, жончын.

— Ах, кажа, гэта ты, Васіль Іваныч? У адзін мамэнцік, кажа, мы табе адчынім. Пачакай, таварыш, хвілінaчку.

Тут мяне, бачыце, як паленам па цемі ўдэрыла.

— Ды што-ж гэта, грамадзяне,— думаю, за навіна такая ў сямейным жыцьці — мужоў ужо пускаць у хату перасталі.

Прашу падобраму:

— Адчыні, кажу, Міхась, такісякі сын... Ня бойся, біцца я з табой ня буду.

А я, бачыце, і фактычна, не магу біцца. Рост у мяне, выбачайце, малы, будова цела мізэрная. Не магу я біцца. А да таго, бачыце, у мяне ў жываце заўсёды нешта там бурчыць, а асабліва пры хуткім руху. Фэльчар кажа: „Гэта ў цябе страва гуляе“. А мне, бачыце, не лягчэй ад таго, што яна гуляе. Забаву сабе якую знайшла! Толькі, адным словам, праз гэта не магу я біцца...

Стукаю ў дзьверы.

— Адчыняй, крычу, бадзяка такі!

А ён праз дзьверы адказвае:

— Не ламай дзьвярэй, чорт! Зараз адчыню.

— Грамадзяне, — кажу, — ды што-ж гэта будзе такое? Ён, кажу, з жонкай зачыніўся, а я ўжо і дзьвярэй не трасі і ня рухай. Адчыняй, кажу, у адну мінуту, а то я табе зараз гармідар зраблю.

Ён кажа:

— Васіль Іваныч, ды пачакай трошкі. Пасядзі, кажа, у калідоры на скрыначцы. Ды газоўкі, кажа, не абярні. Я табе яе знарок для сьвету паставіў.

— Братцы, кажу, мілыя таварышы! Ды як-жа, кажу, ён сьмее; подлы яго твар, у гэткі час, спакойна, мужу пра газоўку казаць? Ды што-ж гэта такое робіцца?

А ён, бачыце, ўгаварвае праз дзьверы:

— Эх, ты вось, Васіль Іваныч, заўсёды быў беспартыйным мешчанінам. Беспартыйным мешчанінам і памрэш.

— Няхай сабе, кажу, я беспартыйны мешчанін, а толькі вось я ў адзін момант за міліцыяй пабягу.

Бягу, разумеецца, ўніз, к міліцыянту.

Міліцыянт кажа:

— Нічога, таварыш, нічога я зрабіць не магу. Калі, кажа, вас забіваць пачнуць, або, напрыклад, праз вакно выкінуць, дык тады заступіцца можна... А так, кажа, нічога надʻзвычайнага ў вас ня здарылася. Усё нармальна і дасканальна... Ды вы, кажа, зьбегайце яшчэ раз. Можа, яны пусьцяць.

Бягу назад — і фактычна, праз паўгадзіны Міхась Бачкоў адчыняе дзьверы.

— Захадзеце, — кажа. — Цяпер можна.

Уходжу хутчэй у хату — братцы вы мае — накурана, наплёвана, накідана. А за сталом, паміж іншым, сем чалавек сядзіць — тры бабы і двое мужчын. Пішуць. А можа засядаюць. Чорт іх разьбярэць.

Паглядзелі яны на мяне і ў рогат.

А павадыр іхны, таварыш Міхась Бачкоў, нагнуўся над сталом і таксама, бачыце, аж заходзіцца ад рогату.

— Выбачайце, — кажа, — „пардон“, што над вамі крыху пажартавалі. Хацелася, бачыце, нам ведаць, што гэта мужы ў такую пару робяць.

А я ядавіта адказваю:

— Нечага, кажу, тут зубы выскаляць. Раз, кажу, паседжаньне, то так і казаць трэба. Або, кажу, запіскі на дзьвярох вывешваць. А наагул, кажу, калі кураць, дык праветраваць трэба.

А яны пасядзелі, пасядзелі і разышліся.

(*З радавага гумару*).

**Я. М.**



# Народны гумар.

### ЗАБАБОННЫЯ.

— Ай, кепска будзе: баба мне дарогу перайшла!..

— Эт, баба — нічога! У мяне горай: мне сёньня наранку перайшоў камэндант пастарунку.

### НАШЫЯ ДЗЕЦІ.

— Хадзеце, дзеткі, да хаты. Сёньня сьцюдзена на дварэ. Вось у мяне зуб на зуб не пападае.

— У цябе, бабка, і на печы зуб на зуб не пападзе, бо ты ніаднюсенькага зуба ня маеш.

*Я. Б.*

### ПРАГАВАРЫЛАСЯ.

— Ах, рыбачка мая! Ганулька! Ці-ж гэта ты?! То-ж я чула, што ты замуж выйшла?

— Але, але, сястрыца, вядома, выйшла?

— Но, то кажы хутчэй, як-жа табе жывецца? Ці хоць добры твой чалавек?

— А-ёй, які добры!

— А часам ня б'ецца?

— Хай Бог крые!.. Ну, часам, калі вып'е, дык яно не без таго, штурхане раз-другі.

— Ты, даражэнькая, яму грошай не давай, дык ён і піць ня будзе.

— Ого, папрабуй ты толькі яму пярэчыць, дык ён і штодзень натрэсьці цябе можа! *Я. Б.*

### НА ДАЧЫ.

Селянін-пасланец просіць доктара:

— Паночку, будзьце ласкавы, зьбірайцеся хутчэй, жонка...

— Ня здохне твая жонка. Прывязеш заўтра, — сёньня ня маю часу...

— Не, жонка нашага пана запрашвае вас на паляваньне.

— Ужо, ужо! Скажы ёй, што праз хвілінку буду.

*Б. .К*

### НЯХАЙ САБЕ ІДЗЕ.

Бацька паслаў малога Міхаську паклікаць суседа на вясельле. Міхаська, баючыся суседавага сабакі, падыйшоў да вакна дый пытаецца:

— Дзядзька, а дзядзька, ці сабака Ваш дома?

— Дома, дзеткі.

— Дык татка клікаў на вясельле.

— Няхай сабе ідзе, — я-ж яму не забараняю. *Я. М.*

Крапіва.

## Аб „буры і націску".

(*К сучасным спрэчк м*).

Адзін аж лезе, здэцца, з скуры,
Даводзячы патрэбнасьць буры
І націску ў літэратуры;
Другі баіцца, мусіць, буры —
Даводзіць ён, што лепей крышку
Было-б сядзець нам у зацішку,
А трэці проста пустазвоніць—
Ні нападае, ні бароніць —
Паднялі толькі завіруху,
Тымчасам справа ўсё бяз руху.
Браткі! ці весьці гэту спрэчку,
Ці сыпаць вам муку у рэчку
(Як то ў няведамай старонцы
Калісь рабілі пашахонцы),
Карысьць бадай што тут адна—
Ня будзем мець мы талакна.
Чым весьці спрэчку гэту дурна,
Было-б, памойму, лепей крыху
За працу ўзяцца — хто паціху,
А хто няхай-бы сабе й бурна.

### ДАСЬЦІПНЫ АДКАЗ.

Кажуць, што кароль Афганістану — Аманулаг, праяжджаючы нядаўна праз Менск, спытаўся ў тамашніх беларусаў:

— Ці праўда, што ў вас бываюць такія маразы, што аж вочы ў людзей ад холаду лопаюцца?

— Першы раз чуем! А нам казалі, што ў вас бывае такая гарачыня, што ў вашых людзей растапляюцца мазгі і выцякаюць праз нос. *Я. Бадзяк.*

* * *

Мы паўсталі жыць нанова,
Як-бы са сну дзеці;
Загрымела наша слова
Па усенькім сьвеце.

Хутка сілай маладою
Мову зваявалі;
Хто-ж ня скажа слова „дзякуй"
Коласу й Купале!

Апроч волатаў магутных
Шмат яшчэ мы маем
Розных пяра пераможцаў,
Што красу ствараюць.

Ды ў апошні час зьявілась
(Змоўкнуць неяк трудна),
Вершаплётаў, што шрайбуюць
Вельмі ўжо паскудна.

Крадуць думкі і звароты
Ды не чырванеюць
І паперу вельмі спраўна
Псаваць яны ўмеюць.

Шмат ёсьць добрых, не пярэчу—
Будуць з іх поэты,
Але большасьць — графоманы,
Паскудзяць сьвет гэты.

Сваймі вершамі газэты
Яны закідаюць,
Хоць іх пэўна у . . . . . .
Пстым ужываюць.

*Ч.*

### ДУРНЫ ЯЗЭП.

Язэп і Марыля ідуць на кірмаш. Язэп вядзе на пастронку карову. Дарога вядзе праз лес. Раптам затрымліваецца Марыля і кажа:

— Язэпка, я баюся.

— Ды чаго?

— Каб ты, Язэпка, ня скрыўдзіў у лесе.

— Ідзі, дурніца, вось бачыш, што я павінен вясьці карову на пастронку.

— Які ты дурны, Язэпка! — Гэта-ж карову можаш прывязаць у лесе. *Л. Спр.*

**Грамадзяне!** Паведамляем, што пры гэтым нумары „МАЛАНКІ" рассылаем усім нашым падпісчыкам рахункі на той доўг, які належыцца за высыланьне „МАЛАНКІ" ў крэдыт.

Каб аблягчыць працу паважаным падпісчыкам, далучаем да рахункаў паштовыя пераводы дзеля высыланьня грошай нашай рэдакцыі.

Просім пасьпяшыцца з высланьнем грошай, каб ня спыняць высыланьня „МАЛАНКІ".

**Хто неадкладна не ўрэгулюе свайго доўгу, — той ад наступнага нумару „МАЛАНКІ" адрымліваць ня будзе!**

Незалежна ад высланьня доўгу, просім **аднавіць падпіску на бягучы час, бо „МАЛАНКА" больш нікому ў крэдыт высылацца ня будзе.**

*Адрэсаваць:* Рэдакцыя „МАЛАНКА", Вільня, Гэтманская вул. № 2.

## Бюрократ.



— Дзядзечка! дай галодным, бяспрытульным.

— Не магу адразу. Кожнае пытаньне абгуджаецца ў камісіях. Зайдзеце праз тыдзень.

## Радавы шлюб.



— Таварыш, дыякан! Вы ўжо, калі ласка, пасьпяшэцеся з пяяньнем, а то ў маладога (жаніха) праз гадзіну паседжаньне па пытаньню „Прэч стары быт“!

## Аратар.



— Пппадддтрымліваю пппапярэдняга аррратара...

(*З радав. гумару*).

## НАША ПОШТА.

**М. Глядзельнік**: Верш свой Вы заканчваеце так:

«Вось як сьвята правялі мы
«Без гарэлкі... бяз бітвы!..
. . . . . . . . . . .
«А як Вы?

Дзе ўжо нам да Вас раўняцца! Мы так ня ўмеем.

**„Эхо“**: А Вы свой верш так пачынаеце:

«Як была ў нас «Грамада»—
«Свайго дабівалася,
«А за гэта шмат людзей
«Да турмы дасталася»...

Вы, як бачым, хочаце яшчэ пасадзіць туды і нашага рэдактара, калі-б ён згадзіўся надрукаваць увесь Ваш верш.

І рэшта Вашых „вершаў“ не падходзіць.

**Я. Дудка**: Вы прыслалі нам свой „твор“ і пішаце: „*Прышла мне ў галаву думка. Плюнуў я туды-сюды, сеў і напісаў*“.

Мы таксама: Адтрымалі Ваш „твор“. Прачыталі, плюнулі туды-сюды і... ў кошык! Здаецца, зрабілі мы зусім павашаму?

**Кураш Антон**: Высыланьнем кніжак не займаемся. Ліст Ваш перадалі ў Беларускую Кнігарню, Вільня, Вострабрамская вул. № 1.

**П. Вясёлы**: Хоць Вы і вясёлы, а напісалі такі нудны жарт, што аж млосна нам рабілася, яго чытаючы. Паміж іншым, пішаце: *Прашу вмясьціць гэту статейку ў „Маланку“, а то нашыя шляхцянкі вельмі ўжо насы задзіраюць*...

Ну і хай сабе задзіраюць, а Вы на іх не глядзеце! Хіба ў Вашай старонцы прыгожых вясковых дзяўчат няма?

**Васіль Дзун**: Вы прыслалі свае „жарты“ і просіце: *кіньце іх у кошык, калі не падхадзячыя*“. Просьбу Вашу споўнілі. Замест траціць грошы на маркі, лепш прыслалі-б падпіску. Дзіўна вельмі нам, што Вы сьвядомы беларус і „Маланку“ любіце, а падпіскі нам зусім ня прыслалі. Пара!

**Лотаць**: Вы, мусіць, ніколі ў судзе ня былі, ніколі пракурора Гаўрылы ня бачылі, а пішаце верш „У судзе“.

Верш слабы, негумарыстычны, непраўдападобны, а галоўнае бяз сэнсу.

Бедная папера! — усё сьцерпіць.

**М. З.**: Вершу Вашага „Ці не пазнала?“ зьмясьціць ня можам. Ня хочам, бачыце, горай угнявіць п. пракурора, які на працэсе „Грамады“ ў Вільні дакараў „Маланцы“, што яна ня дружыць з арт. 74 К. К.



Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
**ВІЛЬНЯ, Гэтманская вул., № 2**
«МАЛАНКА»



ПАДПІСНАЯ ЦАНА:
на 1 год 8 злот.
„ паўгода 4 „
„ тры мес. 2 „
„ адзін м. 1 „
За граніцу: на год — 2 даляры, на паўгода—1 д. на 3 мес.—50 цэнт.

Рэдактар **М. Луцэвіч**. — Выдавец: **Я. Маразовіч**. Друкарня Б. Клецкіна, Вільня.